# ПАГОНЯ

Чацвер
6 студзеня 2000 г.
№ 1 (448)
Кошт 70 рублёў.


## Хуткая дапамога ад папы Рымскага

**Цудоўны падарунак да Новага года і свята Нараджэння Хрыстовага атрымала ад папы Рымскага Астравецкая цэнтральная раённая бальніца.**

Ян Павал II падарыў мясцовым медыкам аўтамабіль хуткай дапамогі «Паланэз», аснашчаны звышсучасным медычным абсталяваннем. У пачатку 2000 года, юбілейнага для усіх хрысціянаў, адбудзецца асвячэнне гэтай машыны, якая адразу ж уключыцца у працу.

## Know-how са Смаргоні

**Новую тэхналогію аднаўлення газавых і нафтавых свідравін прапанавалі канструктары і спецыялісты Смаргонскага завода аптычнага станкабудавання.**

Цэльнаметалічная труба даўжынёй да трох тысяч метраў пры дапамозе ўстаноўкі, змантараванай на шасі вялікагрузнага аўтамабіля, апускаецца ў свідравіну замест старых. Подобнай тэхналогіі ў краінах СНД пакуль што няма, таму ўжо ў 2000 годзе яе асваенне і выпуск труб новай канструкцыі дазволяць калектыву завода павялічыць аб'ём вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі.

Заказы на прадпрыемства паступаюць зараз не толькі ад айчынных распрацоўшчыкаў, але і ад замежных бурыльшчыкаў.

**Аляксандр Паповіч**

## Да заможнага жыцця так і не даехаў

**Гарадзенскія пагранічнікі ў чарговы раз прадухілілі незаконнае перасячэнне мяжы прадстаўніком афра-азіяцкага рэгіёну.**

Як паведамілі у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, 29 снежня ў пункце пропуску «Гродна-3» пры афармленні выезду за мяжу аўтамабіля «Аўдзі» пагранічны нарад затрымаў грамадзяніна Ганы. Афрыканец спрабаваў выехаць за мяжу, маючы дакумент з фальшывай пячаткай і пераклеенай фатаграфіяй.

## Памежнікам будзе дзе жыць

**У новым годзе ў Дзяржаўным камітэце пагранічных войскаў Беларусі запланавана будаўніцтва 14-ці аб'ектаваў, у тым ліку аднаго памежнага паста, дзвюх застаў і адной камендатуры. Запланавана таксама рэканструкцыя трох ваенных гарадкоў.**

У мэтах забеспячэння ваеннаслужачых памежных войскаў жыллём у 2000 годзе прызначана распачаць будаўніцтва 70-кватэрнага жылога дома ў Гродне і 45-кватэрнага ў Лідзе, пачаць рэканструкцыю інтэрната пад жылы дом у Смаргоні.

**Вячаслаў Будкевіч**

## Моладзевая палітыка на мяжы стагоддзяў

**13 студзеня ў 15 гадзін у Цэнтры пазашкольнай работы «Прамень» адбудзецца сустрэча моладзі з намеснікам старшыні Беларускай Нацыянальнай моладзевай Рады спадаром Аляксеем Мацэвілам.**

Гэтая сустрэча ўзнаўляе праграму «Дыялог», мэтай якой з'яўляецца пошук і вырашэнне моладзевых праблемаў. У 1997 годзе падобныя сустрэчы адбываліся двойчы - з Аляксеем Дзіковічам - старшынём камісіі па справах моладзі аблвыканкама, і з Ігарам Кузмінічам - намеснікам старшыні Беларускай Нацыянальнай моладзевай Рады. Тэма сустрэчы з Аляксеем Мацэвілам - гэта моладзевая палітыка на мяжы стагоддзяў.

**Аксана Курмель**




**7 і 8 студзеня** - воблачна, кароткачасовыя ападкі. Вецер паўднёва-заходні, 3-8 м/с. Тэмпература паветра ўначы 0...-4, удзень 0...-3.

# З Раством Хрыстовым!

## З Каляднага Паслання Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

Узлюбленыя архіпастыры, пастыры, манахі, манахіні і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!




Вось ужо надышоў апошні год другога тысячагоддзя ад Нараджэння Хрыстовага! Увесь хрысціянскі свет з асаблівай адказнасцю і глыбокай пашанай узгадвае найвялікшыя падзеі тых святых дзён, бо кожны чалавек ва ўсе часы і ва ўсіх народах знаходзіць у Евангельскім апавяданні пра Нараджэнне Боскага Дзіцяці штосьці асаблівае, важнае, значнае і асабіста для сябе. У асобе простых пастухоў і магутных валхвоў увесь род чалавечы атрымаў вобраз пакланення Хрысту Збавіцелю незалежна ад таго, якое месца ў свеце займае той ці іншы чалавек і якое званне ён носіць. Гасподзь наш Ісус Хрыстос прыйшоў у свет «дзеля нас, людзей, і дзеля нашага збаўлення», стаў Пастырам усяго чалавецтва. Ён заснаваў Сваю Царкву, устанавіў у ёй сем святых Таінстваў і тым самым даў людзям адзіны шлях збавення, які застаецца адкрытым для кожнага чалавека да самага скончання веку...

...Праз дзве тысячы гадоў пасля той Каляднай ночы нязгасная Бэтлеемская зорка па-ранейшаму кліча і вядзе кожнага чалавека, у чыім сэрцы жыве жаданне сустрэчы з Богам, у Бэтлеем - горад Боскага Хлеба, Які сышоў з нябёсаў і дае Жыццё Вечнае...

...Вусны многіх хрысціянаў нашага часу ўжо стаміліся ад гучных выкрыванняў злобы бягучага дня і грахоў свету гэтага. Але ці заўсёды здольныя выкрывальнікі да дзейснай і міласэрнай любові, якая адзіная ацаляе душэўныя раны і лечыць знямоглы дух чалавека? Бо не адным толькі ўспамінам Евангелля збаўляецца хрысціянін, а выкананнем Евангельскіх запаветаў на ўсякім месцы свайго жыццёвага служэння...

...Сёння мы шчыра радуемся таму, што за апошняе дзесяцігоддзе адыходзячага XX стагоддзя ва ўлонні Беларускай Праваслаўнай Царквы аднавілася служэнне міласэрнасці - гэта дзейснае хрысціянства. Так, сорак пяць брацтваў і сястрыцтваў здзяйсняюць свой подзвіг любові да бліжняга ў гарадах і вёсках, у бальніцах і турмах, у дамах адзінокіх старых людзей і сярод маладых гаротных суайчыннікаў...

...І не толькі ў нашых прыходах і храмах ажыццяўляецца вялікая справа духоўнага збаўлення нашай Бацькаўшчыны, але і ў кожнай хрысціянскай сям'і, бо яна з'яўляецца малою Царквою Хрыстовай. У кожным пабожным сямейным жыллі, якое захоўваецца ў маральнай чысціні як храм Божы, славасловіцца Бог!..

...З любоўю ў Госпадзе вітаю ў гэты юбілейны год і віншую з Нараджэннем Хрыстовым усіх суайчыннікаў нашых, што жывуць у рассеянні; увесь адзінаверны праваслаўны свет і ўсіх, хто ва ўсякім народзе носіць Імя Хрыстова ды імкнецца выконваць Евангельскія запаветы.

Віншую ўсіх з Раством Хрыстовым і жадаю вам, узлюбленыя Браты і Сёстры, каб сэрцы вашыя палымнелі вераю і любоўю, асвятляючы шлях Збавіцелю, бо Ён адразу прыйдзе ў адказ на малітоўны заклік веруючых у Яго: «Так прыйдзі, Госпадзі Ісусе!» (Адкр. 22:20). Амінь.

## Гарадзенскай епархіі - сто гадоў

**10 студзеня Гарадзенская епархія святкуе свой 100-гадовы юбілей. З гэтай нагоды ўсе вернікі запрашаюцца на ўрачыстыя мерапрыемствы, што будуць праходзіць у нашым горадзе.**

**7 студзеня, ноч** - Свята-Пакроўскі сабор. - Нараджэнне Хрыстовае. Боская літургія. - Хор Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора і «Дойлідства».

**7 студзеня, 10.00** - Свята-Пакроўскі сабор. - Боская літургія. - Хор Свята-Пакроўскага сабора і капэлы.

**7 студзеня, 17.00** - Свята-Пакроўскі сабор. - Святочная вячэрня. Хоры Свята-Пакроўскага сабора, Уладзімірскай і Каложскай цэркваў, дзіцячых нядзельных школаў.

**9 студзеня, 17.00** - Свята-Пакроўскі сабор. - Святочная вячэрня. - Хоры цэркваў г.Гродна, харавая капэла, «Дойлідства».

**10 студзеня, 9.00** - Літургія ў Свята-Пакроўскім саборы.

**10 студзеня, 16.00** - Урачыстасці ў драмтэатры.

## У новы год - па новыя «Дажынкі»!

Некаторыя гарадзенцы адначасова адзначалі разам з Новым годам таксама не менш улюбёнае ў народзе свята «Дажынкі». Гэтую магчымасць нам падарылі супрацоўнікі Менскага завода шампанскіх він. Яны вельмі самавіта змясцілі ў правым ніжнім кутку цэтліка «Советское шампанское» спецыяльны надпіс - «Дажынкі-99». Ведаюць на заводзе, як задаволіць прагу народа з энтузіязмам адзначаць святы ўраджаю!

**Альфрэд Хокхіч**




# Каляднае вітаньне Яго Міласьці Ізяслава Божай Ласкай Мітрапаліта Першагерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

З Хрыстовым Нараджэньнем вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе б Вы не былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да свае роднае Сьвятое Царквы імкняцеся, а яшчэ доступу да Яе ня маеце.

Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры!

Даходзяць да заканчэньня дзьве тысячы гадоў, як у роспачную для чалавецтва пару, калі здавалася, што бязьлітасныя й распусныя сілы гэтага сьвету былі няпераможныя, Бог паслаў на зямлю Ягонага адзінага Сына, каб збавіць людзкі род ад улады злыды й грэху.

Каб зьвярнуць гэтую ліхую ўладу, Божы Сын, аднак, ня зыйшоў на зямлю на чале вялізных войскаў, ані ў суправадзе хітрых палітыкаў або багацеяў, але нарадзіўся Дзіцяткам у глыбокай няставчы, нават не пад хатняй страхою, а там, дзе быў пастой для статку.

Нягледзячы ўсё ж на беднасьць, у якой Ён узрос і жыў на зямлі, ды на безабароннасьць ад мажных гэтага сьвету, Ягоная Навука любасьці да Бога й да бліжняга чалавека зьвярнула ў друз імпэрыі, сьцерла межы нявалі й дала людзкому роду сьведамасьць вышэйшае за собскую карысьць мэты ягонага жыцьця.

З доўгага ланцуга пакаленьняў нам выпала неўзабаве адзначаць заканчэньне другога тысячагодзьдзя ад Хрыстовага Нараджэньня - гэтую найвыдатнейшую ў гісторыі чалавецтва падзею.

Нямала хто ўважае, што гэтае адзначэньне павінна выяўляцца ў нейкіх асаблівых мерапрыемствах або ў пышных урачыстасьцях.

Узгадваючы, аднак, беднасьць, у якой наш Збавец зыйшоў і жыў на зямлі, ды сьціпласьць і любасьць, зь якімі Ён навучаў людзей, ці ня варта было б нам замест багатых сьвяткаваньняў у гонар зьмены лічбаў у напісаньні году зазірнуць у нашыя душы й пераканацца, ці йдзем мы, што называем сябе хрысьціянамі, сьледам Збаўцовае Навукі, альбо зьбіліся з паказанае Ім дарогі й блукаем, зманутыя нягожымі спакусамі гэтага сьвету.

Гэткі агляд сумленьня выявіць, на жаль, што мы ўсе, амаль да аднаго, часта ступаем убочнымі ад Божага шляху сьцежкамі.

Ня толькі самі не выконваем Божых Наказаў у жыцьці, але й не настаўляем малодшых паводле Хрыстовае Навукі любіць Бога, свой Народ і родны Край, ды ня служым ім добрымі прыкладамі, а нашай мяккасьцю паказваем, што з благам можна мірыцца.

З таго распуста й брыда заліваюць усе віды інфармацыі й разрыўкі, замест нас скіроўваючы моладзевыя памкненьні на нястрыманае маральнымі межамі неадкладнае здаваленьне целавых і матар'яльных пажаднасьцяў.

Таксама й у вонкавых жыцьцёвых абставінах мы, не ўзважваючы на просты розум прыгожыя, але зманныя словы й пустыя абяцаньні тых, што бяруць уладу над нашым жыцьцём і будучыняй, бязьдзейна ўпакорваемся ім ды далей корпаемся ў нашых бясконца няплодных пражытных справах.

Калі ж ад несправядлівасьці й крыўды, брыды, галечы ды безнадзейнасьці нашыя душы шукаюць Знайвышняе патолі й падтрымкі, мы спрабуем упрасіць іх у Бога праз пасярэдніцтва тых, што прыкрываючыся пабожнымі словамі, празь стагодзьдзі служылі й цяпер служаць не Гаспадарству на Небе, а царству на зямлі, якое ненасытнасьцю сваёю на чужое дабро губіла й губіць жыцьці незьлічоных пакаленьняў.

Апамятаймася ж, Любыя Браты й Сёстры, і на парозе трэцяга тысячагодзьдзя ад Хрыстовага Нараджэньня станьма сумленна ажыцьцяўляць Ягоную Навуку не пад повадам тых, што абяртаюць Яе ў прыладу паняволеньня ды рабунку й загубы, а ў сваёй, з Божае Волі нам дадзенай роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Толькі тады нашыя просьбы дойдуць да Найвышняга Пасаду, а нашыя дзеі прынясуць плён нам і наступным пакаленьням нашага Народу.

Няхай жа Ласка й Апека пароджанага ў Бэтлеэме нашага Збаўца Ісуса Хрыста будзе заўсёды з Вамі!

**+ Мітрапаліт Ізяслаў,**
**Першагерарх Беларускае**
**Аўтакефальнае Праваслаўнае**
**Царквы Сьвята Хрыстовага**
**Нараджэньня Божага лета 1999-га**

# Адстаўка Ельцына паставіла Беларусь перад выбарам

**Не паспела ПАГОНЯ зрабіць навагодні прагноз адносна магчымасцяў удзелу беларускіх палітыкаў у барацьбе за пасаду прэзідэнта Расеі, як ён спраўдзіўся літаральна праз некалькі дзён, яшчэ ў апошнія дні старога года. Сваёй адстаўкай Барыс Ельцын расчысціў шлях да прэзідэнцтва Уладзіміру Пуціну. Аляксандр Лукашэнка застаўся ў сенцах - у пакоі, дзе творыцца рэальная палітыка Расеі, яго не пусцілі, нават паназіраць. Маўры робяць сваю справу, а белыя гаспадары - сваю.**

Толькі неверагодны збег нешчаслівых абставінаў альбо надзвычайная асабістая нядбайнасць могуць перашкодзіць Пуціну заняць кіруючае крэсла ў Крамлі. Магчыма нават ягоная перамога ў першым туры. Больш таго, магчыма нават, што на пасаду прэзідэнта Расеі акрамя Пуціна балатавацца больш ніхто не наважыцца. Ужо ў бліжэйшы час Пуцін зменіць урад і краіна цалкам пяройдзе ў ягоныя рукі. Які прэзідэнт выйдзе з гэтага чалавека, пакуль прагназаваць немагчыма; Пуцін доўгі час жыў за мяжой, з'яўляецца чалавекам адукаваным, у паскудствах заўважаны не быў. З іншага боку, усё яго гэбісцкае мінулае, а таксама кіраўніцтва чачэнскай «мачылаўкай» разам з зацятай расейска-беларускай «інтэграцыяй» прымушае чакаць працягу імперскай палітыкі перш за ўсё ў дачыненні да гэтак званых «малодшых братоў» - Беларусі і Украіны.

Увогуле, падзеі некалькіх апошніх гадоў указваюць на тое, што палітыка падзелу сфераў уплыву паміж Захадам і Усходам ізноў стала вызначальнай тэндэнцыяй і галоўнай мэтай у міжнародных дачыненнях. У знакамітай групы «Pink Floyd» была некалі песня з такімі словамі: «Брэжнеў узяў Афганістан, Рэйган узяў Бейрут» (з-за гэтага песні гурта не дазвалялася «круціць» на дыскатэках - быццам, нехта разумее па-ангельску). Гэтак і сёння. NATO ўзяў Польшчу, Расея ўзяла Беларусь. NATO ўзяў Косава, Расея ўзяла Чачню. Хто і што возьме далей, можна прадлічыць. Украіну Расеі не ўзяць, Прыбалтыку таксама, але спробы гэта зрабіць будуць узмацняцца. Затое Расея не адчуе вялікіх перашкодаў у Азіі і на Каўказе - вось каго сапраўды чакаюць цяжкія часіны.

Што да Беларусі, то палітыка Расеі робіцца ўсё больш празрыстай. Коратка яе можна вызначыць наступным чынам. Расея разумее, што натуральны гістарычны і геапалітычны працэс вядзе да самавызначэння беларусаў як адметнага еўрапейскага народа, які аднолькава ненавідзіць усіх заваёўнікаў і аднолькава не жадае працаваць ні на каго іншага, акрамя сябе самога. Расея гатовая коштам падаўлення ў Беларусі натуральных працэсаў дэмакратызацыі і лібералізму насаджаць русіфікацыю (пад выглядам славянафільства, праваслаўя, абароны ад NATOўскай агрэсіі) праз стварэнне падкантрольных марыянеткавых рэжымаў. Зацягваць працэс поўнага падпарадкавання Беларусі Расея не мае магчымасці - з кожным годам незалежнага існавання Беларусі ўсё болей замацоўваюцца нацыянальна арыентаваныя сілы, якія бяруць пад свой кантроль усё больш сфераў жыцця краіны. Таму Расея рэзка паскорыць інкарпарацыю Беларусі, як толькі зможа вырашыць сваю ўнутраную праблему: каму даверыць уладу.

Калі праблема стабільнасці расейскай улады вырашыцца з прыходам Пуціна (вельмі падобна на тое, што вырашыцца), то назаўтра прыйдзе чарга вызначыцца ўсім нам: народу, палітыкам, персанальна Лукашэнку - як і калі скасаваць «злачынства супраць славянскага праваслаўя», гэта значыць, знішчыць незалежнасць сваёй Беларусі. Наступных прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі Расея не дапусціць. Так зачыніцца пастка, пастаўленая на шляху амбітных нікчэмнасцяў, удумаўшых, што яны будуць кіраваць Расеяй.

Такім чынам, перад А.Лукашэнкам узнікае праблема прэзідэнцкіх выбараў, але ўжо не з боку беларускай апазіцыі, а з боку былых «таварышаў», «старэйшых братоў». «Старэйшы брат» за цаной не пастаіць - у А.Лукашэнкі, наадварот, за душою больш нічога няма. У ягоным хуткім ды імклівым краху можна не сумнявацца. Куды яго выштурхне пастаўшчык Пуцін - ганаровым цырымонімайстрам ці амбасадарам у Гандурас - не мае значэння. У любым выпадку можна лічыць, што ён добра адбіўся. Калі адаб'ецца.

Супраць Пуціна ў А.Лукашэнкі «няма прыёма». Яны абапіраюцца на аднолькавы электарат, на тыя ж самыя палітычныя кланы, на тыя ж крыніцы фінансавання. Аднак, Пуцін «цягне» на кіраванне Расеяй, а А.Лукашэнка - відавочна, не. З Пуціным Расея не апынецца ў міжнароднай ізаляцыі - і зусім не таму, што той пачне пагражаць «ядзернай кнопкай». Людзі ўзроўню А.Лукашэнкі Расеяй ніколі не кіравалі - у найноўшай, прынамсі, гісторыі.

...Што да Барыса Ельцына, то сваёй адстаўкай ён паставіў сябе першым у шэраг асобаў, якія без вайны і крымінальшчыны забяспечылі перадачу ўлады з адных рук у іншыя ў краіне, якая падобных прыкладаў амаль не мела. Ён сам прыйшоў, сам і сышоў. Зрабіў гэта эфектна, артыстычна і годна - новы 2000-ы год ён паставіў годам новай эры. Ён разбурыў таталітарызм, імперыю...а што далей - хай вырашаюць маладыя. На жаль, мы, беларусы, так і не зразумелі ні таго, што робіцца ў свеце, ні таго, чаго чакаць ад Расеі.

**Сяргей Самасей**

# Партыя Пазьняка заклікала да салідарнасці

**Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ пачынае бестэрміновую акцыю «Беларуская салідарнасць», мэтай якой з'яўляецца згуртаванне народа Беларусі перад пагрозай «расійскай акупацыі». Пра гэта паведамілі 4 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Менску кіраўнікі КХП БНФ.**

У межах акцыі прадугледжваюцца шэсці, мітынгі, пікеты і іншыя вулічныя выступленні ў абарону беларускага суверэнітэту; адстойванне інтарэсаў айчынных прадпрымальнікаў, банкаў, прамысловасці, сельскай гаспадаркі; растлумачальная работа сярод насельніцтва «у сувязі з фактычнай агрэсіяй Расіі супраць Беларусі»; назапашванне базы дадзеных аб грамадзянах, «якія здольныя супрацьстаяць рэжыму і працаваць у імя незалежнасці Беларусі», і іншыя мерапрыемствы.

Ужо сабрана больш за пяць тысяч подпісаў пад зваротам да ААН, АБСЕ, кіраўніцтва ЗША і Вялікабрытаніі з заклікам не прызнаваць падпісаны летась у снежні дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Распачата падрыхтоўка да масавай акцыі 25 сакавіка — у 82-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Па словах намесніка старшыні КХП БНФ Юрася Беленькага, усе значныя палітычныя сілы Расіі, у тым ліку правага спектра, «стаяць на пазіцыі інкарпарацыі Беларусі». Таму, мяркуе ён, апазіцыі «няма ніякага сэнсу» узмацняць усходні вектар сваёй палітыкі.

Як заявіў сакратар управы БНФ Алесь Чахольскі, у выпадку інкарпарацыі Беларусі Расія «адназначна атрымае заходні фронт», паколькі ў Беларусі «шмат людзей, гатовых змагацца за сваю незалежнасць».

На думку намесніка старшыні КХП БНФ Сяргея Папкова, ускладанне абавязкаў прэзідэнта Расіі на Уладзіміра Пуціна змяніла сітуацыю ў Беларусі. «На расійскім палітычным полі знойдзена замена Лукашэнку. Зараз ён будзе толькі перашкаджаць... Беларусь нашпігавана расійскімі спецслужбамі, беларускія спецслужбы падначалены Маскве, і ўсе намаганні будуць накіраваныя на тое, каб на выбарах беларускі народ абраў фігуру, якая здасць Беларусь хутчэй, чым нават Лукашэнка. Магчыма, неўзабаве Лукашэнку пачнуць падштурхоўваць да датэрміновых выбараў, каб замяніць яго легітымным шляхам. Лукашэнка разглядаецца ў Расіі ўжо як адпрацаваны матэрыял. Ён падпісаў неабходную дамову, і працэс далейшай акупацыі Беларусі перамясціўся ў чыноўніцкія колы», — лічыць С.Папкоў.

Па словах Ю.Беленькага, магчымыя і іншыя варыянты, у прыватнасці, легітымізацыя самога рэжыму Лукашэнкі.

А.Чахольскі не выключыў верагоднасці фізічнай ліквідацыі Лукашэнкі: «Пагдядзіце, хто кіруе яго аховай, хто займае ключавыя пасты ў сілавых і іншых міністэрствах. Ідзе замена нават калабарантаў-беларусаў».

Прааналізаваўшы сітуацыю, КХП БНФ заявіла аб намеры не браць удзелу ў парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах, якія «будуць арганізаваны рэжымам». КХП БНФ заявіла таксама пра гатоўнасць супрацоўнічаць з іншымі апазіцыйнымі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі, аднак, па словах С.Папкова, не наважана ўваходзіць ні ў якія надпартыйныя структуры.

Як заявіў А.Чахольскі, некаторыя сілы спрабавалі сутыкнуць паміж сабою дзве часткі БНФ, які раскалоўся, і «пад шумок здаць Беларусь». «Мы разбірацца між сабою не будзем, нам няма чаго дзяліць. У нас ёсць разыходжанні ў тактыцы, у бачанні сітуацыі, але мэта — агульная», — падкрэсліў А.Чахольскі.

**Дзмітрый Уласаў**

# Барані нас Бог ад маскоўскай любові

У часы Хрушчова быў такі анекдот:

- Што агульнага паміж Савецкім Саюзам і амурам (анёлам кахання)?

- Абодва ўзброены да зубоў, з голай дупай і да ўсіх лезуць са сваёй любоўю.

У дачыненні да Імперыі Зла гэта быў не вельмі злы анекдот. Слова «імперыя», па вызначэнню, гэта шматнацыянальная дзяржава, у якой народы ўтрымліваюцца сілаю, а іхнія рэсурсы выкарыстоўваюцца для патрэбы Цэнтра (метраполіі) і для агрэсіі супраць суседзяў. Былы СССР і сённяшняя РФ, як яго нашчадак, адпавядаюць гэтаму вызначэнню.

Назіраючы вайну ў Чачні і агрэсію Федэрацыі супраць Беларусі (падпісанне «саюзнай дамовы», якую ў народзе празвалі «праект УсяРусь»), разумееш, што Масква вярнулася да старой бруднай і крывавай імперскай палітыкі. «Любоў» Масквы да Беларусі лёгка пераходзіць у нянавісць і пагрозу жыццю тых, хто няўдзячна не адказвае на «любоў». Ужо знішчаны некалькі вядомых беларускіх палітыкаў, а другія ратуюцца ў эміграцыі. Замест мірнага будаўніцтва сваёй краіны беларусы будуць «расходным матэрыялам», а іх тэрыторыя ператворыцца ў плацдарм, прахадны двор ці «чорную дзірку».

Цывілізаваны свет не пагодзіцца з імперскай палітыкай, і пачнецца новая халодная вайна (ці працяг старой) ва ўмовах больш неспрыяльных для 3-яй імперыі, чым гэта было для 2-й - Савецкага Саюза. З Беларусі на патрэбы вайны будуць высмактаныя ўсе рэсурсы. Чарнобыльская навала, пра якую амаль забыліся, «пасадка» чарнобыльскага попелу на Магілёўскую вобласць, дзе народ, згодна са статыстыкай, больш любіць Маскву, чым у іншых рэгіёнах Беларусі, будуць выглядаць нязначным ажыятажам у параўнанні з будучай вайною. Халодная вайна можа зацягнуцца на дзесяцігоддзі.

Ці пазбавіць нас Бог ад маскоўскай любові? - Бог найперш дапамагае таму, хто дапамагае самому сабе. Беларусам трэба ўсвядоміць свае інтарэсы і самім змагацца за іх, толькі тады Бог і цывілізаваны свет нам дапамогуць. Любыя, нават самыя дробныя ўчынкі ў гэтым накірунку, будуць да месца. Пытанне стаіць ужо не пра кавалак хлеба, а пра само жыццё.

Ці трапіць Беларусь у Еўропу? Ці ёсць еўрапейскі базіс у беларусаў? У якой ступені Захад, Поўдзень і Поўнач змогуць нам дапамагчы ў супрацьстаянні імперыі? З якой хуткасцю пойдуць працэсы ўмацавання ці развалу Федэрацыі? Ці здолеем мы паспрыяць (і ў якой ступені) яе развалу?

Паўстае пытанне сілавога супраціву імперскай палітыцы, які, відавочна, будзе разглядацца Масквой ці рэжымам як «тэрарызм».

Сённяшнія праблемы каранямі ляжаць у глыбіні стагоддзяў, і праблемы гэтыя звязаныя з такім неўяўным фактарам як ментальнасць народа. У 1795 годзе Беларусь трапіла ў палон да маскалёў. У 1861 годзе было скасавана прыгоннае права - рабства. Яно было адноўлена бальшавікамі ў 1917 годзе і скончылася ў 1991 годзе. Рэжым, які быў навязаны беларусам ў 1996 годзе, таксама адносіцца да рабства, таму што крытэрыем (умовай) свабоднага існавання з'яўляецца выкананне ў краіне правоў чалавека. Арганізацыя «Міжнародная Амністыя» аб'явіла Беларусь несвабоднай краінай у той час, калі нашы суседзі - Польшча, Літва, Латвія - лічацца свабоднымі, а РФ і Украіна напалову свабоднымі краінамі.

Гады, пазначаныя вышэй, умоўныя, таму што пераходныя працэсы не адбываліся за адзін год. Беларусы былі адносна свабоднымі толькі на працягу 60-ці гадоў за апошнія два стагоддзі, а федэралы не мелі свабоды ўсё другое тысячагоддзе цалкам, за выключэннем тых жа 60-ці гадоў. Трэба выразна ўсведамляць, што рабства насоўвалася і насоўваецца на Беларусь з Усходу (гл. схему).

Сёння страх - галоўны фактар і галоўная перашкода на шляху ў Еўропу да свабоды, а значыць да незалежнасці і дабрабыту. Страх абумоўлены рабскай ментальнасцю масы. Эліта беларускага грамадства павінна пераадолець уласны страх і дапамагчы пераадолець яго народу. Эліта павінна ўсвядоміць уласныя інтарэсы і інтарэсы свайго народа.

Відавочны імперскі накірунак развіцця нашага ўсходняга суседа. Знясіленыя неабходнасцю думаць, масы кінуліся галасаваць за ледзь абазначанага правадыра - збаўцу ад разумовых клопатаў - ката Чачні Пуціна, новага Суворава. Спрацоўвае старая ісціна - не можа быць свабодным народ, які заганяе ў рабства іншыя народы. У Расеі пайшоў працэс вяртання ў такое звыклае прыгоннае права.

**Сяргей Дамброўскі**




**Мадэль свабоднага грамадства** **Мадэль рабства**

## Ланцуг Свабоды ў Бабруйску

**Малады Фронт гораду Бабруйску разам з маладымі людзьмі іншых моладзевых арганізацыяў ладзіў ланцуг Свабоды ў абарону Незалежнасці нашай краіны 4 студзеня 2000 году ў 18 гадзін каля гарадзкога цэнтральнага вузла сувязі.**

**Удзел прымалі й іх дарослыя сябры з розных дэмакратычных арганізацыяў. У ланцугу з запаленымі сьвечкамі стаяла каля 70 чалавек, асабліва прыемна было назіраць за маленькімі дзецьмі, якіх прывялі з сабою бацькі. Дзеткі трымалі ў руках сьвечкі... Раздавалася газета «Рабочы Бабруйска», прысутнічала нацыянальная сімволіка, даваліся тлумачэньні прахожым.**

**Дазвол на мерапрыемства не браўся. Прысутнічала шмат людзей у міліцэйскіх пагонах і са сьпецслужбаў. Інцыдэнтаў не адбылося, мо з прычыны прысутнасьці назіральнікаў Бабруйскага рэгіянальнага адздзяленьня БХК, якія былі афіцыйна прадстаўлены ад уладных структураў.**

**Ланцуг Свабоды ў абарону Незалежнасьці нашай Беларусі, пад даждом і сьнегам, прайшоў цудоўна.**

**Вячаслаў Сьвізуноў**

 



# Гарадзенскія спадзяванкі-2000

**У апошнія дні адыходзячага года ў Гродне панаваў святочны настрой. Каб больш падрабязна даведацца пра навагоднія мары і спадзяванні гарадзенцаў, мы правялі невялікае апытанне на вуліцах горада. Атрымалася вось такая замалёўка, якая, мабыць, адлюстроўвае святочны дух увогуле.**

Як адзначыў адзін са шматлікіх таксістаў, «усе чакаюць чагосьці добрага. Я, напрыклад, упэўнены, што будзе ўздым і росквіт!». Маладая дзяўчына Таццяна жадае, каб гэта было і нешта незвычайнае. Яшчэ адна прыгажуня вызначыла канкрэтна: «Падарункаў!» Людзі сталага веку адказалі такім чынам: «Чего-нибудь толкового», «Павелічэння заробку». Адзін малады чалавек шчыра прамовіў: «Кватэру!».

Але, на вялікі жаль, знайшлося шмат мужчын і жанчын, дзяўчат і юнакоў, бабулек і дзядулек, якія «нічога не чакаюць, не чакаюць нічога асаблівага і ўпэўнены, што ўсё будзе па-старому, дрэнна, не бачаць прасвету ў жыцці». «Перемен требуют наши сердца!» - нават праз 10 гадоў пасля смерці Віктара Цоя ягоныя словы не страцілі сваёй актуальнасці. Шмат з запытаных чакаюць менавіта зменаў ад надыходзячага года. Дзіўна, але розныя па знешняму выгляду - сур'ёзны мужчына гадоў 50-ці і стыльны доўгавалосы юнак - адказалі аднолькава: «Незалежнасці і свабоды для краіны, каб яна знайшла свой шлях у Еўропу».

На пытанне «Што Вы жадалі б змяніць?», мы атрымалі наступныя адказы.

«Каб цэны знізіліся», - пажадалі жанчына з дачкой і чалавек сталага веку. Вельмі хвалявала праблема транспарту кульгавага... Скардзіліся на цяжкае матэрыяльнае становішча і маладая дзяўчына, па выгляду студэнтка, і міліцыянт Віктар, і прадпрымальнік Ігар.

Вельмі рашуча адказалі сябры Антон і Сцяпан: «Змяніць уладу!», прыгожая дзяўчына Жанна: «Прэзідэнта трэба новага!». Амаль аднолькава выказаліся людзі сярэдняга ўзросту Андрэй, Алесь і яшчэ некаторыя, што пажадалі застацца невядомымі, - «Нам патрэбен новы ўрад».

Але ж у перадсвяточныя дні гарадзенцы думаюць не толькі аб праблемах паўсядзённых. Знайшліся і такія, што адказалі наступным чынам: «Уверена, что люди будут жить лучше!», «Всё и так хорошо, ничего не надо менять!», «Хочу, чтобы люди были счастливы, чтобы не было бедных, чтобы люди уважали друг друга, чтобы правительство заботилось о нас...».

**Вольга Панамарова,**
**Інга Дуброўская**




**Вось такія «грамацеі» на Гарадзенскай тытунёвай фабрыцы. Мабыць, у дзяцінстве шмат палілі - вось і не авалодалі мовамі: ні рускай, ні беларускай...**

# «Мінімалка» зноў пагналася за цэнамі

**З 1 студзеня 2000 года мінімальная заработная плата ў Беларусі павялічыцца на 51,7 працэнта і складзе 2 мільёна 200 тысяч недэнамінiраваных рублёў. Пра гэта паведаміў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык.**

Тарыфная стаўка першага разраду вырасце ў 1,5 раза — з 3 мільёнаў да 4 мільёнаў 500 тысяч рублёў, пры гэтым для работнікаў бюджэтнай сферы, якія аплочваюцца па першым разрадзе, прадугледжана штомесячная даплата у памеры 3 мільёнаў рублёў (раней — 2 мільёны).

Папярэдняе павышэнне мінімальнай зарплаты адбылося 1 кастрычніка (да 1 мільёна 450 тысяч рублёў). За прайшоўшы перыяд яна абясцэнілася амаль на трэць — з 2 долараў 74 цэнтаў да 1 долара 84 цэнтаў у пераліку па рынкавым наяўным курсе. Стаўка першага разрада (з улікам даплаты) абясцэнілася з 9 долараў 43 цэнтаў да 6 долараў 33 цэнтаў. З 1 студзеня МЗП вырасце да 2 долараў 78 цэнтаў, а стаўка першага разрада (з улікам даплаты) — да 9 долараў 49 цэнтаў.

У адыходзячым годзе павелічэнне мінімальнай зарплаты адбывалася тройчы. З 1 студзеня 1999 года па 1 студзеня 2000 года ў намінальным выражэнні МЗП вырасла ў 4,4 раза, у доларавым вылічэнні — на 45 працэнтаў (год таму яна складала 1 долар 92 цэнта).

**Дзмітрый Уласаў**

# Вось ён і надышоў, доўгачаканы

**Чаго толькі ад яго не чакалі! Вялікая партыя і ўрад абяцалі кватэру кожнай сям'і, прадказальнікі і астролагі прадракалі усё: ад канца свету да росквіту цывілізацыі. Увесь свет напружана сачыў за рашэннем «праблемы-2000»... А як усе рыхтаваліся да сустрэчы! Не будзем казаць пра тых, хто паляцеў святкаваць на Канары ці ў Аўстралію. Нават простая хатняя гаспадыня старалася прыгатаваць на святочны стол нешта незвычайнае, адсвяткаваць неяк больш арыгінальна.**

**Але якія пачуцці мы зведалі ў той момант, калі стрэлкі гадзінніка сышліся на дванаццаці?**

<u>**Андрэй, студэнт:**</u>
- Нічога асаблівага не адчуў. Звычайны Новы год. Выпіў, пагуляў і зноў да сесіі трэба рыхтавацца. Маркота смяротная...

<u>**Ганна, хатняя гаспадыня:**</u>
- Вы ведаеце, я нечакана спакойна усё ўспрыняла. Не было ў мяне нейкіх ілюзіяў з нагоды будучага тысячагоддзя. Усё ж засталецца, як і было! Нават бруд на вуліцах той жа...

<u>**Анатоль Цярэнін, намеснік старшыні ўпраўлення культуры аблвыканкама:**</u>
- Было такое адчуванне...нават і не захапленне, а гонар ад прычыннасці да такой падзеі! Жыць на мяжы стагоддзяў - гэта цудоўна! Мае бацькі не дажылі да гэтага дня, а нехта народзіцца ў 2001 годзе. Ніхто з іх не стаў удзельнікам такой падзеі, а я жыву ў гэты час і вельмі рады!

<u>**Інга, выкладчыца:**</u>
- Нічога асаблівага. Мне проста хацелася нармальна правесці гэтыя некалькі дзён. А так...законы будуць тыя ж, заробак таксама, паводзіны людзей навокал рaптоўна лепшымі не стануць.

<u>**Ігар, прадпрымальнік:**</u>
- Радасць была, што дажыў да гэтага дня здаровым і на свабодзе (смяецца). А яшчэ спадзевы на лепшае. Хаця ў нашай краіне... Не, не буду працягваць.

<u>**Дзве сяброўкі, супрацоўніцы Фонда Міру:**</u>
- Сустракалі гэты год з надзеяй (пасля доўгай развагі) на вырашэнне жыллёвага пытання.

<u>**Людміла, супрацоўніца камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя:**</u>
- У мяне падрыхтоўка да святкавання была крыху азмрочана тым, што «Вадаканал» пад вечар адключыў ваду і потым уключыў, калі ў мяне ўжо сабраліся госці. Так што... А ў цэлым, сустракала 2000 год з верай і надзеяй на змены да лепшага, хаця не надта ў іх і верыцца...

<u>**Роберт Бражук, Галоўны спецыяліст абласнога камітэта па справах моладзі:**</u>
- Чагосьці надзвычайнага не адчуваў, таму што не лічу, што пачалося новае тысячагоддзе. Да яго яшчэ год трэба пачакаць. Ды і перадсвяточныя клопаты, якія скончыліся за лічаныя хвіліны да надняцця кілішкаў, неяк змазалі адчуванне свята. Яно ўжо крыху пазней стала прыходзіць. А наогул жа ёсць надзея на змены і паляпшэнні. Перш за ўсё, г'а працы. З'яўляюцца перспектывы ў рабоце з моладдзю. Ёсць акрэсленыя праграмы і планы.

<u>**Віктар Жалезнякoвіч, загадчык аддзела інфармацыі гарвыканкама:**</u>
- На дзіва, будзённа ўсё прайшло.

<u>**Ірачка, навучэнка сярэдняй школы:**</u>
- Адчуванне было такое!!! Мне матуля дазволіла адсвяткаваць Новы год з сяброўкай і дала пакунак цукерак!

Вось так мы і сустрэлі новае тысячагоддзе (?). (а мо пакуль не тысячагоддзе?). З радасцю, што далі цукерак, з надзеяй, што дадуць яшчэ і, можа, усё будзе добра...

**Аляксандр Зімін**

# У новае стагоддзе з «Новым стагоддзем»

**Да Новага года Менскі вінна-гарэлачны завод «Крышталь» асвоіў выпуск новага віду гарэлкі.**

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Менску 29 снежня генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «Белкрухмалпрам» Мікалай Бялко, гарэлка з назвай «Новае стагоддзе» выраблялася па зусім новай тэхналогіі. Паводле яго слоў, упершыню ў Беларусі ў вытворчасці падобнага віду прадукцыі выкарыстоўваецца натуральная мінеральная вада з малым працэнтам мінералізацыі. Акрамя гэтага, гарэлка праходзіць ачыстку на крэмніевых фільтрах і апрацоўваецца іонамі серабра. Пры яе вырабе выкарыстоўваецца толькі спірт класу «люкс».

Ужо з 29 снежня «Новае стагоддзе» паступіла на беларускія паліцы. Кошт адной бутэлькі ёмістасцю 0,7 літра ў рознічным продажу —1 мільён 209 тысяч рублёў. Акрамя таго, паведаміў М.Бялко, неўзабаве ў продажу з'явіцца новая гарэлка «Белая Русь — люкс», якая зараз актыўна прабівае сабе дарогу на рынку ЗША, а у першым квартале 2000 года — гарэлка «Вадалей».

**Юрый Пацёмкін**

# Паводле ўказу Лукашэнкі Хрыстовае Нараджэнне перанесена на травень

**Паколькі 4—7 студзеня беларускі кіраўнік будзе з візітам у Ізраілі, галоўныя ўрачыстасці юбілейнага для хрысціянства года перанесены ў Беларусі на травень.**

Як паведаміў галоўны спецыяліст упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі апарату Савета Міністраў краіны Уладзімір Ламека, у адпаведнасці з указам прэзідэнта нацыянальны аргкамітэт па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкаванні 2000-годдзя хрысціянства быў створаны яшчэ 4 чэрвеня 1998 года. Яго ўзначаліў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг. Згодна з планам работы аргкамітэта, цэнтральнай падзеяй юбілейнага года павінны стаць афіцыйныя ўрачыстасці і вялікі канцэрт. Напачатку планавалася, што гэтыя ўрачыстасці пройдуць 7 студзеня 2000 года. Аднак Беларускі Экзархат Рускай праваслаўнай царквы прапанаваў перанесці іх на травень у сувязі з тым, што 7 студзеня А.Лукашэнка ў ліку кіраўнікоў іншых хрысціянскіх дзяржаваў будзе ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях у Бэтлееме (Ізраіль).

**Марат Гагавы**

# Новы год - быў і пайшоў...

**Ну вось і прайшла тая ноч, якую ўсе чакаюць увесь год. Да Навагодняй ночы гаспадыні рыхтуюцца цэлы месяц - а мінае цудоўнае імгненне пераходу ў наступны год за адзін момант - калі гадзіннік адбівае 12 гадзін ночы.**

Дарэчы, пра гадзіннік. Мы да гэтай пары не прапускаем бомканне крамлёўскіх курантаў, якія доўгі час былі сімвалам Новага года. Калі шчыра - збіраемся за стала ў 22.30 і сустракаем расейскі Новы год. Па БТ ж пасля святочнага прывітання прэзідэнта нам прапаноўваюць замест сапраўднага вежавага гадзінніка нейкі мульцік. І чуецца не ўрачыстае «Бом-Бом-Бом!», а нейкае несур'ёзнае «цілі-бом-бом». Прапануем рэспубліканскаму тэлебачанню звярнуцца ў Гродна і запісаць для навагодняй ночы цудоўны механічны гадзіннік з Фарнага касцёла - прыгажэй і старажытней за яго, напэўна, у краіне няма!

Новы год прайшоў у Гродне мітусліва і гучна. Самыя заўзятыя пачалі святкаваць недзе з раніцы... У Навагоднюю ноч над горадам віднелася зарыва: у цэнтры быў невялічкі феерверк, а цывільныя грамадзяне назапасілі розных бухалак і петардаў, што свабодна прадаваліся на базары, хаця гэта, як і ўзрыванне петардаў, забаронена. Абласная служба на надзвычайных сітуацыях паведамляе, што з 31 снежня да трэцяга студзеня адбылося 13 пажараў, у якіх загінула 12 чалавек. Галоўны прычыны пажараў у прыватных дамах - курэнне ў нецвярозым стане ў ложку. 1999 год увогуле пабіў рэкорды па няшчасных выпадках ў пажарах: за гэты час загінула ажно 108 чалавек, з якіх 8 дзетак. З гэтай прычыны служба па надзвычайных сітуацыях заклікае грамадзянаў праявіць пільнасць на праваслаўных Калядах. За два дні каталіцкіх Калядаў загінула ў агні 13 чалавек.

У ноч з 31 снежня па першае студзеня міліцыя ставілася да бушуючых весялуной лаяльна: у выцвярэзнік трапіла ўсяго чатыры чалавекі. І тыя, як сказалі супрацоўнікі выцвярэзніка, не маглі «мама» сказаць, не тое што свой адрас. Першай кліенткай была жанчына.

Ля гарадскіх елак уначы грамадзяне з Дзедам Марозам вадзілі карагоды ды спявалі песні. А раніцай першага студзеня на вуліцы Савецкай была гнятлівая карціна: усе 14 прыбраных елачак, што стаялі ў скрынях амаль два тыдні, зніклі. Адна, праўда, ляжала ля скрыні - паламаная і абскубеная.

Яшчэ адна цікавая асаблівасць раніцы першага студзеня: у крамах - ні чалавечка, а гарэлка, мяса, яйкі і мінералка ў наяўнасці.

Першае немаўля 2000-га года нарадзілася ў гарадзенскім раддоме ў 00.13. Гэта хлопчык вагой 3.800. Яго маці - настаўніца, адчувае сябе добра. Гэта - адзінае дзіця, што нарадзілася ў Навагоднюю ноч у Гродне. Кватэры ў падарунак гарадскія ўлады пакуль не запланавалі. Шчаслівых бацькоў павіншуюць па абласным тэлебачанні.

І з палівам у свята гарадзенцам не пашчасціла. 31 снежня пасля 24 гадзін, напрыклад, на аўтазапраўцы ў Панямуні не было нічога, акрамя бензіну 95-га. Сёння тут дызпаліва па 190 тысяч за літр, бензін 76-ы - 200 тысяч, 92-і - 280, 95-ы - 330. Ліміт на паліва ў Гродне па-ранейшаму - 20 літраў «у адныя рукі».

У цэлым Новы год-2000 быў добрай рэпетыцыяй: некаторыя перайшлі ў трэцяе тысячагоддзе, а тыя, у каго трохі лепей з матэматыкай - пяройдуць у 2001-м годзе. Але ўсё роўна - усім зычым шчаслівага новага года!

**Алена Сіневіч**

# З новым падаткам!

**1 студзеня ў Беларусі ўвайшлі ў сілу змяненні і дапаўненні ў Закон «Аб падатку на дабаўленую вартасць», у адпаведнасці з якімі з 2000 года ў краіне ўводзіцца прынцыпова новы парадак вылічэння і выплаты ПДВ.**

Пры новым метадзе вылічэння аб'ектам падаткаабкладання будзе не дабаўленая вартасць, а абароты па рэалізацыі тавараў, работ і паслуг. З гэтага часу належная да выплаты ў бюджэт сума ПДВ будзе вызначацца як розніца паміж сумамі падатку, прадстаўленай пакупнікам гатовай прадукцыі, і сумамі падатку, выплачаных пастаўшчыкам за сыравіну, матэрыялы і камплектуючыя вырабы. Пры гэтым у плацёжных і разліковых дакументах ПДВ будзе вызначацца асобным радком.

Закон таксама прадугледжвае ўвядзенне трох ставак ПДВ: стандартнай — 20 працэнтаў, ільготнай — 10 працэнтаў і нулявой. Пры рэалізацыі тавараў па рэгулюемых цэнах з улікам ПДВ будуць прымяняцца стаўкі падатку 9,09 працэнта або 16,67 працэнта.

**Юрый Пацёмкін**

 

# Мужчыны - каралі бітыя, перамагае дама Карольчык

## Па версіі нашай газеты Яніна Карольчык - лепшая спарцменка Гарадзенчыны мінулага 1999 года.

**Пяты раз у гісторыі ПАГОНЯ вызначае дзесятку мацнейшых спарцменаў Гарадзенскай вобласці па выніках каляндарнага сезону. Насамперш, прыгадаем лаўрэатаў мінулых гадоў:**

**1995 г. - Эдуард Хямяняйнен** (лёгкая атлетыка, дзесяцібор'е);

**1996 г. - Уладзімір Дуброўшчык** (лёгкая атлетыка, кіданне дыску);

**1997 г. - Анатоль Федарэнка** (грэка-рымская барацьба);

**1998 г. - Ігар Каляда** (плаванне).

На гэты раз вылучыць «залатую дзесятку» Гарадзеншчыны было надзвычай цяжка. 1999 год стаўся адным з самых няўдалых для нашых спарцменаў у сэнсе высокіх дасягненняў на міжнародным узроўні. На «спад» пайшлі барцы і гімнасты, большага чакалі ад стралкоў і лёгкаатлетаў (хаця апошнія апынуліся летась лепшымі на Беларусі). А некаторыя з-за траўмаў і хваробаў (напрыклад, мінулагодні пераможца Ігар Каляда) былі змушаны фактычна прапусціць сезон.

Урэшце, нумарам адзін было вырашана ўганараваць штурхальніцу ядра **Яніну Карольчык**. Менавіта яна, па апытанні аўтарытэтнай газеты «Прессбол» была прызнаная мацнейшай сярод лёгкаатлетаў краіны. Яніна нарадзілася на Гарадзеншчыне, трэніравалася ў Ваўкавыску, вучылася ў Гродне. І хаця цяпер жыве ў Менску, сваёй радзімай лічыць менавіта нашу вобласць, да таго ж, у Свіслацкім раёне (мястэчка Поразава) жывуць яе бацькі.

На чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы, які праходзіў у гішпанскай Севільі, Карольчык заняла чацвёртае месца - лепшы вынік сярод удзельнікаў з беларускай дружыны. Гэты фактар і стаўся вырашальным пры аналізе дасягненняў.

Другі радок у пачэсным спісе мы адводзім таксама лёгкаатлетцы. **Наталля Сафроннікава** з Ваўкавыску тройчы па ходзе згаданага вышэй чэмпіянату перапісвала нацыянальныя рэкорды па спрынце - роўных Наталлі на дыстанцыях 100 і 200 метраў на Беларусі папросту няма.

На трэцяй прыступцы спартыўнага хіт-параду размясціўся **Эдуард Аплевіч**, барэц грэка-рымскага стылю. На апошнім чэмпіянаце свету ён быў чацвёртым.

Услед за дыпламанцкім трыо размясцілася **Наталля Губкіна**, яшчэ адна прадстаўніца «каралевы спорту». Кідальніца молату з Гродна заваявала срэбны медаль на сусветнай Універсіядзе, а на севільскім першынстве свету стала шостай.

Наступная пазіцыя ў дыскабола **Аляксандра Малашэвіча** - атлет са Смаргоні быў першым на моладзевым першынстве Старога Свету. Прызнанне Малашэвіча - пэўны аванс на будучае.

Шосты-сёмы радок дзеляць **Алена Бець і Святлана Вакула** - выхаванкі мастоўскай школы веславання. Яны з'яўляюцца чэмпіёнкамі краіны і ўжо другі год запар паспяхова выступаюць на міжнародных турнірах па веславанні на байдарках і каноэ. На чэмпіянаце свету па гэтым відзе мастаўлянкі здолелі заваяваць алімпійскія ліцэнзіі ў Сіднэй.

Далей ідзе **Аляксей Пынцікаў** з баскетбольнага «Гродна-93». Яго ўключэнне ў дзесятку - гэта і прызнанне клуба-чэмпіёна Беларусі. Сам Аляксей з'яўляецца мацнейшым «далёкабітным снайперам» краіны, у апытанні спецыялістаў і журналістаў на лепшага баскетбаліста Беларусі 1999 года названы чацвёртым. Застаецца зычыць яму большай стабільнасці ў гульнях за зборную.



Яніна Карольчык

Дзевятым мы называем **Юрыя Мазурчыка**, лепшага футбаліста вобласці па выніках мінулага сезону. Футбол - самы папулярны від спорту і стаць лепшым нават на рэгіянальным узроўні няпроста. Лакальным дасягненнем ветэрана гарадзенскага «Нёмана-Белкарда» стала таксама ўваходжанне ў клуб «100», дзе «сабраныя» лепшыя футбольныя бамбардыры Беларусі.

Нарэшце, замыкае «зорную дзесятку» адзін з самых тытулаваных лёгкаатлетаў краіны - **Уладзімір Дуброўшчык**. Хаця на гэтага дыскабола ўскладаліся значна большыя надзеі, сёмае месца ў Севільі - гэта высокі ўзровень.

Дуброўшчыка можна назваць мацнейшым спарцменам Гарадзеншчыны апошняй пяцігодкі стагоддзя - толькі ён трапляў у нашу дзесятку ўсе гады (1995 - 2-і, 1996 - 1-ы, 1997 - 3-і, 1998 - 8-ы, 1999 - 10-ы), Нягледзячы на спад у выніках, так хочацца верыць, што зорны час Дуброўшчыка надыйдзе ў алімпійскім 2000-м.

Зазначым таксама, што трэці раз у «зорную дзесятку» трапіла Сафроннікава, другі раз - Карольчык (яна перайшла з другога «п'едэстальнага» месца на першае). А яшчэ просьба нікому не крыўдзіцца - такія хіт-парады заўсёды з'яўляюцца суб'ектыўнымі і ўмоўнымі.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

# Турнір «чатырох народаў»

**Перад самым Новым годам у Гродне прайшоў міжнародны баскетбольны турнір памяці Анатоля Марцінкевіча. Гэты чалавек, выхаванец прыватнай гімназіі імя Адама Міцкевіча, напрыканцы 20-х гадоў стаяў ля вытокаў гарадзенскага баскетболу.**

Першы баскетбольны мемарыял Марцінкевіча прайшоў у Гродне яшчэ ў 1988 годзе, але тады закласці традыцыю не ўдалося. Толькі праз 10 гадоў - у 1998-ым сабралася сур'ёзная кампанія: акрамя гаспадароў пляцоўкі гулялі нацыянальная дружына Беларусі, віленскі «Сакалай», маскоўскі «Конік». У выніку галоўны прыз здабыла беларуская зборная.

На гэты раз удзел у турніры ўзялі чатыры каманды з чатырох краінаў: «Гродна-93» (чэмпіён Беларусі), беластоцкі «Родэкс» (лідар другой польскай лігі), «Крайтэне» з горада Марыямполе (займае 6-е месца ў чэмпіянаце Летувы) і маскоўскі «Спартак» (адзін з аўтсайдараў расейскай суперлігі). Галоўнымі прэтэндэнтамі на перамогу прагназаваліся гарадзенцы і беластокцы.

На жаль, інтрыга турніру была вычарпана ўжо ў першы дзень розыгрышу. Найбольш упартая барацьба была зафіксавана ў сустрэчы летувісаў з маскоўцамі - у выніку верх узялі балты - 81:76. Пасля на пляцоўку выйшлі фаварыты, але тут роўнага супрацьборства не атрымалася. Гарадзенцы лёгка адолелі сваіх заходніх суседзяў - 79:51. У складзе беластоцкага клубу выступаюць выхаванцы беларускага баскетболу: экс-гарадзенцы Аляксей Альшэўскі (колькі год таму гэты форвард гуляў за зборную Беларусі, а пасля пераезду ў Беласток прыняў польскае грамадзянства) і Андрэй Сінельнікаў (у «Родэксе» ён ўпэўнена выконвае ролю плэймейкера), а таксама колішні менчук Ігар Карніенкаў.

На другі дзень «Гродна-93» упэўнена перамог жмудзінаў - 94:70, а беластокцы разабраліся са «Спартаком» - 78:62. Заключны тур ператварыўся ў фармальнасць. Спярша «Родэкс» выявіў сваю перавагу над летувіскім «Крайтэне», а ў заключным паядынку турніру гарадзенцы разграмілі маскоўцаў - 106:66.

Такім чынам, першае месца на мемарыяле заваявалі гаспадары, другое - беластокцы, трэцяе - летувісы. Па амплуа лепшымі былі прызнаныя: абаронец - Уладзімір Шарко («Гродна-93»), нападнік - Міхаіл Нікалатаў («Спартак»), цэнтравы - Марцін Краеўскі («Родэкс»), снайпер - Данатас Сабалаускас («Крайтэне»). Відавочна, што арганізатары не захацелі пакрыўдзіць нікога з клубаўудзельнікаў.

**Хельмут Каменскі**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Вас чакае цудоўнае знаёмства. Не адмаўляйцеся ад прапановы правесці калядны вечарок у гасцях.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Павышаная актыўнасць на працы і дома. Канфліктаў не прадбачыцца.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Прыгатуйцеся да вялікіх выдаткаў. Змены ў асабістым жыцці Вас прыемна здзівяць.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Ракам трэба як мага пазней выходзіць на працу. Недапушчальныя празмерныя фізічныя і эмацыйныя нагрузкі.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Давядзецца разлічваць толькі на свае сілы. Зрэшты, гэта і да лепшага - надзвычай удалы тыдзень.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Сачыце за сваім здароўем і нічым не рызыкуйце: ні кашальком, ні часам, ні каханнем. Знячэўку ўсё можа развеяцца.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** На працы - перыяд зацішша. Вам пашанцуе ў латарэі. Паспрабуйце!

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Ваша асабістае жыццё нарэшце ўсталюецца. Схадзіце на зімовую рыбалку. Рыба Вас ужо зачакалася.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вам неабходна своечасова падумаць пра адпачынак - Вы яго заслужылі. Пажадана праводзіць свабодны час з сябрамі, не заставацца ў адзіноце.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** На працы не канфліктуйце. Палепшыце сувязь са сваякамі. Засяродзьцеся на зямных справах і не лунайце ў нябёсах.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Нарэшце дачакаецеся ад начальства прэміі, якая будзе адпаведнай ацэнкай Вашай папярэдняй цяжкай і сумленнай працы.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Увесь мінулы год Вас хацелі «засаліць». Аднак цяпер Вы зробіцеся настолькі «крутымі» гаспадарамі свайго лёсу, што ніхто не будзе здольны Вас пакрыўдзіць.

# Чайнворд



1. Святочны абутак, якім карысталіся беларускія дзяўчаты і маладыя жанчыны да XX стагоддзя. 2. Славянскае язычніцкае бажаство. 3. Прыстасаванне для асвятлення хаты лучынай. 4. Горад у Брэсцкай вобласці, дзе быў закладзены помнік Перамогі 1812 года ў дзень 100-годдзя са дня перамогі над французскай арміяй. 5. Конусападобны прадмет, які насаджваецца на канец стралы. 6. Лётчык-касманаўт, які нарадзіўся ў г.п. Крупкі. 7. Посуд, выдзеўбаны з дрэва, найчасцей з ліпы або з вольхі. 8. Мембранавы ўдарны музычны інструмент. 9. Паглыбленне ў сцяне будынка ці збудавання.

**Адказы на навагоднюю галаваломку, змешчаную ў N70(447).**

1. Парадокс. 2. Мроя. 3. Ababак. 4. Дакука. 5. Боты. 6. Фантазія.

# Конкурс на лепшую беларускую вясковую школу

Рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні «Таварыства беларускай школы» і «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» распачынаюць конкурс на лепшую беларускую вясковую школу.

У гэтым конкурсе могуць браць удзел усе школы Беларусі, акрамя як з гарадоў ды раённых цэнтраў, а таксама любыя (гарадскія, вясковыя) навучальна-выхаваўчыя ўстановы (школы, ліцэі, дашкольныя ўстановы, нядзельныя школы ды г.д.) за межамі нашай краіны, у якіх вывучаецца беларуская мова, гісторыя і культура Беларусі.

**1 этап.** Да канца студзеня 2000 года конкурсныя школы на адрас аргкамітэту дасылаюць матэрыялы, у якіх характарызуецца ўстанова, а таксама праца, што ладзіцца па захаванні нацыянальнай і гістарычнай спадчыны беларускага народа, і даецца вольны адказ на наступныя пытанні (для ўстановаў з замежных краінаў яны могуць быць зменены з улікам розных акалічнасцяў навучання).

1. Колькасць (і працэнт) дзетак, ахопленых беларускамоўным навучаннем.

2. Якія мерапрыемствы, гурткі ды іншыя формы выхавання, што маюць месца ва ўстанове, найлепш садзейнічаюць захаванню культурнай і гістарычнай спадчыны?

3. Якія дысцыпліны (класы і колькасць навучэнцаў) вывучаюцца ў школе на рускай ды іншых мовах?

4. На якой мове вядзецца справаводства, нарады, візуальнае аздабленне?

5. Якія газеты і часопісы выпісвае школа?

6. Ці ёсць у школе суполкі ТБМ, ТБШ ды якіх іншых грамадскіх арганізацыяў?

7. Калі школа мае музей, неабходна зрабіць яго кароткае апісанне.

8. Якім чынам укамплектаваная бібліятэка?

9. Ці бяруць удзел вучні (школа) у конкурсах, алімпіядах? Паведаміце пра вынікі.

Апісанне дзейнасці можа быць прадэманстраванае ілюстрацыямі, дакументальнымі матэрыяламі (альбомамі, газетамі, копіямі граматаў ды г.д.).

Аўтарытэтнае Журы конкурсу ў складзе вядомых грамадскіх дзеячоў, педагогаў вызначыць сем лепшых школаў: па адной у кожнай вобласці Беларусі ды адна ў замежжы. Акрамя вывучэння дакументаў, метадамі вызначэння прызёраў таксама могуць быць: запыт характарыстык дзейнасці ўстановаў у рэгіянальных суполках ТБМ, ТБШ, адпаведных дзяржаўных структурах адукацыі, вывучэнне сутнасці справаў непасрэдна на месцы праз камандзіроўкі ды г.д.

**2 этап.** Люты 2000 года - вызначэнне пераможцаў шляхам аналізу дасланых матэрыялаў і праз наведванне сябрамі Журы лепшых навучальных установаў ды вызначэння першага, другога і трэцяга месцаў.

На сустрэчу па выніках конкурсу для атрымання граматаў ды каштоўных падарункаў у Менск запрашаюцца па два прадстаўнікі ад кожнай школы-пераможцы. Прадугледжаныя таксама і дадатковыя прызы для школаў, што не ўвайшлі ў лік пераможцаў: бібліятэчкі кніг, падпіскі на газеты ды часопісы, ільготныя пуцёўкі школьнікам на адпачынак за мяжою ды іншае.

Адрас Аргкамітэту і Журы: ГА «ТБМ імя Ф.Скарыны», 13, Румянцава, Менск-5, 220005.

Тэлефон для даведак: 8-017 284-85-11.

# Ці шчаслівы Ваш шлюб?

| Пытанні да жонкі | Калі-нікалі | Не | Так |
|---|---|---|---|
| 1. Ці лічыце Вы, што Ваш муж ставіцца да Вас з павагай? | 10 | 5 | 2 |
| 2. Жадаеце, каб муж раіўся з Вамі наконт сваіх службовых праблемаў? | 4 | 2 | 8 |
| 3. Ці здараецца так, што Вы псуеце настрой усёй сям'і? | 7 | 1 | 2 |
| 4. Калі ў Вас дрэнны настрой, ці можа выправіць яго нейкая смачная страва? | 10 | 3 | 4 |
| 5. Ці лічыце Вы, што ў кожнай з Вашых сяброўак муж лепшы за Вашага? | 6 | 0 | 1 |
| 6. Здараецца такое, што ў выхадныя дні Вы ходзіце па кватэры неахайна апранутай? | 9 | 7 | 2 |
| 7. Ці раздражняе Вас хобі Вашага мужа? | 8 | 5 | 2 |
| 8. Вы заўсёды рады поспехам Вашага мужа? | 3 | 2 | 10 |
| 9. Ці лічыце Вы, што работа Вашага мужа больш важная за Вашу? | 10 | 0 | 1 |
| 10. Вы праяўляеце да сваіх дзяцей больш клопат, больш любіце іх, чым Ваш муж? | 8 | 2 | 3 |



## Вынікі

Падлічыце, колькі ачкоў Вы атрымалі за свае адказы.

**75 і больш ачкоў.** Вы ўпэўнены, што Ваш шлюб няўдалы. Абвінавачваеце ў гэтым перш за ўсё мужа, але варта было б падумаць, ці не тоіцца прычына ў Вас. Мажліва, яшчэ ёсць час на тое, каб змяніць ход падзеяў да лепшага.

**Ад 40 да 74 ачкоў.** Вы ведаеце, што ідэальнага шлюбу не існуе. Цудоўна разумееце і тое, што добрыя адносіны ў сям'і залежаць не толькі ад Вашага мужа, але і ад Вас. Чым менш ачкоў Вы набралі, тым лягчэй Вы рашаеце сямейныя праблемы. Калі колькасць ачкоў набліжаецца да 74-х, Вас, відаць, нярэдка «скубуць сумненні»: ці здолее Ваша сям'я пераадолець крызіс? Дык вось, не трэба падпарадкоўвацца падобнаму настрою.

**39 і менш ачкоў.** У Вас усё ў парадку, асабліва, калі ўжо мінулі тыя, самыя першыя, складаныя гады Вашага шлюбу. Вы - добрая жонка, пра лепшую Вашаму мужу і марыць няма што.

**P.S.:** Пытанні да мужа - у тэсце праз некалькі нумароў ПАГОНІ (параўнаеце вашы вынікі ды зробіце адпаведныя высновы).

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 16 Наклад 8 317
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 5.01.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар *Мікола Маркевіч*

Камп'ютарны набор: *Таццяна Лучыц*, камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*